# ЯКУБ КОЛАС



Ніва
ШТОТЫДНЕВІК
ГОД I № 26 БЕЛАСТОК, 26 ЖНІЎНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

## Усім нам дарагі

По радыё чуваць гукі пахавальнага марша. Стрэлка стаіць на Мінску. Штось моцна сціскае за сэрца. У памяць урэзваюцца словы, у якія цяжка паверыць.

Адыйшоў ад нас Якуб Колас.

Мы сёння цэлы дзень, як і другія дні, працавалі адданы справе, якая нам усім ляжыць на сэрцы і нічога не ведалі аб Тваей смерці. Твая смерць на хвіліну ўстрымала нашыя імклівыя і гарачыя думкі.

Але ты будзеш жыць сярод нас. Твая вялікая спадчына застанецца з намі. Ты будзеш жыць у нашых сэрцах і гарэць Вялікім Полымем, якое вярнула нам нашу загубленую маладосць.

Нашы дзеці, якія ў гэтым годзе першы раз пераступяць парог беларускай школы, будуць вучыцца Твае спеўнае мовы, якой Ты прысвяціў усё сваё жыццё. Моладзь, якую Ты ўзгадаваў, Тваім імям назаве свае школы.

Жалобна плывуць гукі пахавальнага марша. Не ў сілах стрымаць слёз, якія ціснуцца і набягаюць да вачэй. Слёзы гарачыя — найбагацейшы Твой скарб — чыстымі пэрламі падаюць на апошні Твой шлях.

## У ВЯНОК ПЕСНЯРУ

*Мы выляталі з-пад твайго крыла,*
*Як птушаняты, у палёт свой першы.*
*І праз гады нас вабіла, вяла*
*Пявучая і поўная святла,*
*Паэзія і праўда тваіх вершаў.*

*Няхай нам тых не дасягнуць высот*
*Дзе ты лунаў, нібы арол свабодны,*
*Ты навучыў нас, як любіць народ,*
*Як з ім ісці плячо ў плячо ўперад*
*І як адданым быць краіне роднай!*

*Стаім мы ў смутку ля тваёй труны...*
*Ну як у шлях такі цябе праводзіць?*
*Любіў ты птушак спеў, звон баравой сасны,*
*І кветкі першыя палескае вясны,*
*І сустракаць той міг, як сонца узыходзіць...*

*Устрапяніся! Крылы разгарні!*
*Ты чуеш стук гарачых нашых сэрцаў?*
*Ты клікаў нас да зорнай вышыні —*
*Гатовы мы ў палёт! Зірні —*
*Наўкол зямля твая, тваё бяссмерце!*

ЭДУАРД ВАЛАСЕВІЧ

ЯКУБ КОЛАС

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

(Урыўкі)

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.
О, як-бы я хацеў спачатку
Дарогу жыцця па парадку
Прайсці яшчэ раз, азірнуцца,
Сабраць з дарог каменні тыя,
Што губяць сілы маладыя, —
К вясне б маёй хацеў вярнуцца.

Вясна, вясна! не для мяне ты!
Не я, табою абагрэты,
Прыход твой радасны спаткаю, —
Цябе навек, вясна, хаваю,
Назад не прыдзе хваля тая,
Што з быстрай рэчкай уплывае.
Не раз яна, зрабіўшысь парам,
На крыллях сонца дойдзе к хмарам
Ды ізноў дажджом на рэчку сыйдзе —
Ніхто з граніц сваіх не выйдзе,
З законаў, жыццем напісаных,
Або на дол спадзе ў туманах.
Але хто нам яе пакажа?
На дол вадой ці снегам ляжа?
Не вернешся, як хваля тая,
Ка мне, вясна ты маладая!..

Вось як цяпер, перада мною
Устае куточак той прыгожа,
Крынічкі вузенькае ложа
І ёлка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час кахання,
У апошні вечар расставання.
І бачу лес я каля хаты,
Дзе колісь весела дзяўчаты
Спявалі песні дружным хорам,
З робот ідучы позна борам.
Нясліся зыкі песень здольных,
У лясах раз-по-раз адбівалісь,
І ім узгоркі адклікалісь,
І радасць біла ў песнях вольных.
А хвоі, елкі векавыя
Пад зыкі песень маладыя
Маўчком стаялі ў нейкай думе,
І ў іх ціхусенечкім шуме
Няслось вячэрняе маленне
Угару, святое аддаленне.

Каля пасады леснiковай
Цягнуўся гожаю падковай
Стары, высокі лес цяністы.
Тут верх асіны круглалісты
Сплятаўся з хвоямі, з дубамі,
А елкі хмурымі крыжамі
Высока ў небе выдзяляліcь,
Таемна з хвоямі шапталіcь.
Заўсёды смутныя, бы ўдовы,
Яны найболыш адны стаялі,
І так маркотна пазіралі
Іх задуменныя галовы!
Лес наступаў і расступаўся,
Лужком зялёным разрываўся;
А дзе прыгожыя загібы
Так міла йшлі каля сядзібы,
Што проста імі-б любаваўся.
А знізу гэты лес кашлаты
Меў зелянюсенькія шаты
Лазы, чаромхі ці крушыны,
Алешын ліпкіх, верабіны.
Глядзіш, бывала, і здаецца,
Што скрозь сцяну галін жывую,
Скрозь гэту тканку маладую
Ні мыш, ні пташка не праб'ецца.
Цякла тут злесу не вялічка
Травой зарошчая крынічка,
Абодва берагі каторай
Лазняк, ракітнік абступалі;
Бруіліся ў цяньку іх хвалі
І ў луг чуць значаю разорай
Ішлі спакойна між чаротаў,
Рабілі многа заваротаў,
Аж покі ў Нёман не ўцякалі.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
На прыгуменні, поруч з садам
Павець з гумном стаяла радам,
А пад паветкаю прылады:
Вазок, калёсы, панарады,
Старыя сані, восі, колы
І вулляў некалькі на пчолы,
Яшчэ няконччаных; судзіна,
Стары цабэрак, поўасміна
І розны хлам і лом валяўся,
Ад сонца, дожджыку хаваўся —
Патрэбны рэчы ёсць, вядома!
Гуменца, крытае саломай,
Ад доўгіх часаў пасівела;
Салома кудламі вісела,
Яе вятры параздзімалі,
А трохі хлопцы пасцягалі,
На стрэху лазячы, бывала, —
Іх гэта забаўка займала.
А пад шчытом на павуціне
Нішчымны колас-сіраціна
У зацішку лёгенька гайдаўся;
З якіх ён часаў там трымаўся,
То бог яго святы ўжо знае!
Будоўля, больш яшчэ старая,
З гнілой, вагнутаю страхою,
Стаяў хлявец якраз напроці
І чуць ліпеў, як-бы на плоце
Гаршчок, разбіты качаргою.
Стары, паедзены чарвямі,
На бок пахілены вятрамі,
Глядзеў хлеў гэты старычынай,
Пахілай доляй жабрачынай;
А з боку, ў полі, недалёка
Стаяў прыгрэбнік адзінока,
Пахілкам, горкім сіратою,
У дол упёршыся страхою.
У глыбі двара стаяла хата
І выглядала зухавата
Паміж запушчанай будовы,
Як-бы шляхцянка засцянкова,
Што ў дзень святы каля касцёла,
Чуць-чуць падняўшы край падола,
Так важна ходзіць з парасонам,
Спадніцай верціць, як агонам,
З дарожак пыл, пясок зганяе
І ў вочы хлопцам заглядае.

За хатай поле пачыналась,
Дзе жыта хораша гайдалась,
І рос авёс, ячмень і грэчка, —
Было прытульнае гняздзечка!..

**Д-р Тамара Самковіч-Елісееў**

# Аб неабходнасці супрацьсухотных прышчэпак

Аб гэтым, што сухоты з'яўляюцца хваробай заразлівай, ведалі ўжо даўно. Мінула аднак шмат гадоў, пакуль людзі пазналі бактэрыі, якія пераносяць сухоты. Зрабіў гэта ў 1882 годзе нямецкі вучоны Раберт Кох. Бактэрыя сухот, званая палачкай Коха, з'яўляецца падобнай да хваробатворных бактэрый. Розніца аднак ад іх сваёй вялікай непадатлівасцю на звычайныя спосабы дэзінфекцыі. У спрыяльных умовах: як у вільгаці і пры недахопе свежага паветра і сонца, можа жыць на працягу многіх месяцаў. Сухотамі заражаюцца людзі дваякім спосабам: ад хворага на сухоты і п'ючы малако хворай жывёліны.

Частка хворых на сухоты людзей выдаляе палачкі ў чэс кашлю; такім чынам вялікія масы паветра з велізарнай сілаю выходзяць з бронхі і дыхальнага горла і захопліваюць іх з сабою. Палачкі, завісшыя ў кропельках пляўкі, «лётаюць» у паветры, якое потым удыхаюць людзі. Частка гэтых палачак асядае на навакольных прадметах, высыхае і потым зноў падымаецца ў паветра. Як бачыце, каб заразіцца сухотамі не абавязкова трэба быць у непасрэднай блізкасці з кашляючым чалавекам.

Лёс палачак, якія пранікнулі ў арганізм, ці то ў дыхальныя дарогі (з паветрам), ці то ў стрававальныя органы (з малаком), бывае дваякі: 1. арганізм абараняецца перад імі, высылаючы, на месца знаходжання палачак, чырвоныя шарыкі, якія іх (тыя палачкі) часткова пажыраюць, часткова «замуроўваюць» у месцы знаходжання. Калі палачкі, такім чынам, ліквідаваны, то кажам, што арганізм з'яўляецца моцным, вытрымальным і, што выпрацаваў т. зв. супрацьсухотную ўстойлівасць, г. зн. устойлівасць на наступныя заражэнні. 2. У слабога чалавека, арганізм якога не патрапіць выпрацаваць устойлівасці, палачкі жывуць, размножваюцца, вандруюць у іншыя часткі арганізма і чалавек западае ў сухоты.

Найболей падатлівымі на заражэнні і захворванні на сухоты з'яўляюцца новаароджаныя дзеці і маленствы. Іх арганізм не патрапіць выпрацаваць устойлівасці пасля пранікнення з'едлівай палачкі. Па гэтай прычыне вучоныя імкнуліся знайсці такую палачку, якая садзейнічала-б павелічэнню ўстойлівасці і не выклікала-б захворванняў. Імкнуліся знайсці супрацьсухотную прышчэпку.

Вядома, што прышчэпкі з'яўляюцца найбольш надзейным метадам у барацьбе з заразлівымі хваробамі. Агульнавядомыя цяпер прышчэпкі супраць воспы, дыфтэрыі, сыпнога тыфу і брушнога тыфу. Супрацьсухотныя прышчэпкі абапіраюцца на гэтай самай аснове — стварэння штучнай устойлівасці. З'яўленне супрацьсухотнай прышчэпкі папярэдзілі доўгія і марудныя даследванні. Удалося яе стварыць французскім даследчыкам Кальмэту і Герэну (адтуль і назва прышчэпкі БКГ Бакцілюс — Кальмэт — Герэн). На працягу 13 гадоў праводзілі яны доследы на палачцы жывёльных сухот, якую гадавалі ў пажыўным асяроддзі з бульбы з гліцэрынай з прыбаўкай жывёльнай жоўці. Палачку гэту штораз пераносілі на свежыя пажыўныя асяроддзі і пераканаліся, што ў выніку гэтага траціць яна сваю з'едлівасць, але не траціць аднак уласцівасці ствараня ўстойлівасці. Пасля доследаў на жывёле, у 1921годзе ў Францыі прышчэплена гэтую прышчэпку дзіцяці, а ў 1924 годзе Інстытут Пастэра зрабіў даступнай прышчэпку для агулу лекараў. З таго часу прышчэпкі БКГ атрымалі шырокае распаўсюджанне.

БКГ прышчэпліваецца дваякім спосабам: новаароджаным дзецям у вяку 5—15 дзён — даючы яе ў невялічкай колькасці малака. Слізістая абалонка страўнікавых органаў у новаароджаных дзяцей з'яўляецца пранікальнай для палачак, адкуль вандруюць яны ў паглынальныя вузлы і органы, знаходзячыся ў якіх садзейнічаюць выпрацаванню арганізмам ўстойлівасці. Устойлівасць атрыманая такім шляхам працягваецца 2 гады. Старэйшым дзецям і дарослым прышчэпліваецца ў скуру павярхоўна.

У месцы ўвядзення прышчэпкі ўтвараецца пузырок, які пасля некалькіх мінут знікае. Праз некалькі тыдняў (3—4) у месцы ўліцця з'яўляецца малы, чырвоны гузік, часамі вельмі балючы. Гузік можа пераўтварыцца ў каросту, якая лопае і пачынае нарываць. Нарыў можа працягвацца некалькі месяцаў. Гэты нарыў ніякімі медыцынскімі сродкамі нельга вылячыць. Гоіцца ён сам, трэба толькі дбаць аб чысціню дзіцяці, каб не пранікалі іншыя бактэрыі, якія прычыніліся-б да гнаення нарыва. Пасля прышчэпкі ў новаароджаных дзяцей могуць павялічыцца паглынальныя вузлы на шыі, карку, і пад шчакою; пасля прышчэпкі ў скуру, — пад пахою ці над ключыцай. Часамі такія вузлы могуць пачаць размякчацца і потым гнаіцца. Аднак не трэба гэтым засмучацца. З'яўляецца гэта адзнакай пасля прышчэпнай рэакцыі; стан здароўя дзіцяці застаецца здавальняючым. Ускладненні пасля прышчэпкі БКГ здараюцца вельмі рэдка. Дагэтуль ва ўсім свеце прышчэпку БКГ атрымала звыш 100 мільёнаў людзей і дарослых, а ў Польшчы — каля 3 мільёнаў і не здараліся яшчэ выпадкі захворванняў з прычыны прышчэпкі, ані нейкія большыя ўскладненні. Малая кароста, нарывы або пабольшанне паглынальных вузлоў не можа нас запалохаць таму, што ўводзіцца аслабленыя бактэрыі сухот, на якія арганізм мусіць рэагаваць, у выніку чаго пачынае выпрацоўваць устойлівасць супроць з'едлівых палачак, якія падпільноўваюць нас у навакольным свеце.



*У дзяржаўным прафілакторыі ў Раздрожу Ізэрскім (каля Сверадова), які існуе ад 1952 г. лечацца дзеці хворыя туберкулёзам.*

*Прафілакторыя дзейная цэлы год. Падчас пабыўкі ў ёй дзеці папаўняюць школьную праграму.*

*На здымку: дзеці бавяцца на свежым паветры.*

*ЦАФ. Фот. — Мотль.*



*У Бад Берка, у Турынгіі (ГДР) — курортная мясцовасць хворым на туберкулёз, знаходзіцца навейшая гэтага тыпу клініка ў Еўропе.*

*У клініцы ёсць 560 месц. Апрача лячэбнага пункта знаходзіцца тут і навукаводаследчы пункт.*

*На здымку: у адным з аддзелаў клінікі. Фото — ЦАФ.*

# ЗВЕНО

Нядаўна выйшаў у свет штомесячнік Рускага культурна-асветнага таварыства «Звено».

Рускае культурна-асветнае таварыства гэта арганізацыя рускіх, якая побач з іншымі групамі нацыянальных меншасцей таксама знаходзяцца ў Польшчы.

Галоўная задача Рускага культурна-асветнага таварыства і яго органа «Звена» — павесці ўсіх рускіх — грамадзян Польшчы на барацьбу за пабудову соцыялізма.

На падставе аднаго нумару немагчыма шырэй гаварыць аб «Звене». Ды ўсё-ж такі можна сказаць, што часопіс гэты мае свае цікавыя моманты. Ён імкнецца ўсебакова зацікавіць сваіх чытачоў.

З мэтай азнаямлення чытачоў з рускай культурай і літаратурай «Звено» друкуе ўрыўкі з аповесцяў, апавяданні, звесткі з галіны малярства, мастацтва; закранае гістарычныя і папулярна-навуковыя тэмы, багата ілюстраваны.

Каштоўным фактам з'яўляецца, ужо ў першым нумары моцна падкрэсленая, неабходнасць сяброўскіх адносін і супрацоўніцтва паміж братнімі арганізацыямі нацыянальных меншасцей Народнай Польшчы.

Згодна з задачамі, якія ставіць перад сабой РКАТ і яго орган, у «Звене» павінны знайсці шырокае і ўсебаковае адлюстраванне патрэбы і запатрэбаванні рускага насельніцтва ў Польшчы, чаго нельга сказаць аб першым нумары, дзе значную частку займаюць перадрукі, а мала ёсць свайго, жывога матэрыялу.

Ды няма сумнення ў тым што месячнік «Звено» будзе развівацца, дасканаліцца, імкнуцца поўнасцю апраўдаць сваё прызначэнне.

Жадаем яму ў гэтым вялікіх паспехаў.

**Пачытай мне, мама!**

# Коцік, пеўнік і лісіца

**(Казка)**

Жылі-былі коцік і пеўнік. Добра жылі, дружна. Коцік на паляванне хадзіў, а пеўнік абедварыў, хатку падмятаў, песні спяваў.

Аднойчы пайшоў коцік на паляванне, а пеўнік зачыніў за ім дзверы ды пачаў абед варыць.

Бяжыць лісіца, убачыла хатку, падскочыла да акенца:

— Гэй, хто тут гаспадар?

— Я, — кажа пеўнік.

— Пусці ў хату.

— Чаго?

— Пасяджу трохі, адпачну з дарогі.

Пеўнік добры быў, пусціў лісіцу ў хатку. А лісіца — цап! — ухапіла яго і панесла дадому.

Апамятаўся пеўнік, закрычаў на ўвесь лес:

> — Коце, браце!
> Мяне ліска нясе
> У высокія горы,
> У глыбокія норы,
> Па барах, па карчах,
> Аж бярэ мяне страх!..

Пачуў гэта коцік, прыбег, адабраў у лісіцы пеўніка і завёў яго назад у хатку.

— Ну, — кажа, — глядзі-ж, другі раз не пускай лісіцу, бо цяпер я далей пайду і магу не пачуць цябе.

— Добра, — кажа пеўнік, — не пушчу.

Зноў пайшоў коцік на паляванне.

А лісіца тут як тут:

— Пеўнік, галубок, разумны лабок, адчыні!

— Чаго табе трэба?

— Пазыч агню.

— Навошта?

— Буду ў печы паліць.

— Не адчыню, бо ты схопіш мяне.

— Ды не, больш не буду хапаць.

Паверыў пеўнік лісіцы і адчыніў дзверы. А тая — ухапіла яго і панесла.

Пеўнік зноў пачаў клікаць коціка:

> — Коце, браце!
> Мяне ліска нясе
> У высокія горы,
> У глыбокія норы,
> Па барах, па карчах,
> Аж бярэ мяне страх!..

Добра, што коцік далёка не адышоўся ад дому: пачуў ён пеўніка, прыбег і адабраў яго ад лісіцы.

— Ну, — кажа ён пеўніку, — калі ты і трэці раз адчыніш лісіцы дзверы, то бяда табе будзе: цяпер я пайду на паляванне яшчэ далей.

— Не, — кажа пеўнік, — больш я гэтай зладзейцы дзвярэй не адчыню.

— Глядзі-ж!

І коцік пайшоў у самыя далёкія лясы.

Прыбегла лісіца:

— Пеўнік, галубок, разумны лабок, дай вугалёк!

— Не, цяпер я дзверы табе не адчыню!

— Дык ты праз акенца падай.

— Праз акенца можна, — згадзіўся пеўнік.

Адчыніў ён акенца, а лісіца ўхапіла яго і панесла.

Крычаў, крычаў пеўнік, ды коцік яго так і не пачуў: вельмі-ж далёка ён зайшоў.

Прынесла лісіца пеўніка дахаты і загадала дочкам у печы паліць, з пеўніка крупнік варыць. А сама пайшла гасцей склікаць.

Вярнуўся з палявання коцік, бачыць — няма пеўніка. „Мусіць, яго зноў лісіца ўхапіла? — падумаў коцік. — Як-жа яго цяпер з бяды выратаваць?"

Зрабіў ён скрыпачку галасістую ды пайшоў да лісіцы.

Прыйшоў, сеў ля варот і зайграў, прыпяваючы:

> — Тылі-тылі, скрыпіца,
> Тут сядзела лісіца.
> А ў лісіцы
> Новы двор,
> Сем дачушак
> На выбор.
> Восьмы пеўнік, —
> Гэта мой!

Пачулі лісіцыны дочкі музыку і кажуць:

— Як хораша нехта іграе. Бяжым паслухаем, а пеўніка зварыць яшчэ паспеем.

Выбеглі яны на двор ды і заслухаліся.

Пеўнік-жа тым часам не драмаў: выскачыў з лісіцынай хаткі ды пабег з коцікам да хаты.

Так і засталася лісіца ні з чым.

